**На старонцы 7 – ГОЛАЯ ЦЁЛКА ЗЬ ВЯЛІКІМІ СІСЬКАМІ!**


# НАВІНКІ

20 верасьня - 5 кастрычніка 2000 №12(34) Кошт свабодны




# ЛукаЧЭнка наведаў Востраў Свабоды...

**К**раіна ўпэўнена крочыць у заўтрашні дзень. Апошні хадж Прэзыдэнта ў заходняе паўшар'е вызначыла геапалітычнае месца нашай краіны ў наступным мілeніюме. Беларусь вуснамі нашага гаранта заявіла, што будзе востравам Свабоды XXI стагодзьдзя, прынамсі ў Эўропе. Такім чынам, нас чакае рэмэйк кубінскіх будняў – імпэрыялістычная блякада, правакацыі апазыцыянэраў-«гусанасаў» (чарвякоў) і дэфіцыт цукравага трасьнягу. Усе гэтыя колы пекла ўжо напрацягу 40 гадоў праходзіць Куба.

Як яны там яшчэ не скапыціліся, – спытае чытач, атручаны сярэдзічаўскай прапагандай. Не дачакаецеся! Кубу корміць камандантэ Чэ Гевара. У Гаваны ёсьць аўтарскія правы на выкарыстаньне лягатыпу Чэ Гевары – самы круты рэклямны лэйбл XX стагодзьдзя. Ня мне вам казаць, што такое Чэ Гевара для нашай генэрацыі і для бюджэту краіны. Чэ на кубінскіх рублях. Чэ на вокладках кніжак Пялевіна, якія выдаюцца мільённымі накладамі. Чэ – на каверах альбомаў RAGE AGAINST THE MASHINE. Чэ – на кожнай другой тынэйджэраўскай байцы.

Адным словам, Чэ – гэта пячора Алі Бабы. Дастаткова ведаць шыфр дамафона «Сім-Сім, адчыні дзьверы», і краіна будзе затопленая залатавалютнымі інвэстыцыямі. Як адзіны сябра барадатага Фідэля беларускі рэзыдэнт мае цудоўны шанец перацягнуць на сябе частку іміджу вялікага камандантэ. Лукашэнка – гэта Чэ Гевара сёньня!




**АЛІМПІЯДА, допінгі, рэкляма і інш. на стар.4–5**

**Порна** ці ня порна? Вось дзе пытаньне! **Стар. 2**





**Хто падставіў лапавухага Сьцяпашку?** падрабязнасьці пажару на Астанскінскай вежы на **стар. 6**

БЛАКІТНЫ ГОНАР





антымістычная трагедыя-гомікс на стар.8



Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс **63439**. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 20.09.2000г., а 01.01. Тыраж 7300 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ПП «Мэджык», г. Менск, вул. Кнорына, 50. Заказ № 775

# В. Чыкін: «Хопіць глядзець замежныя тэлеканалы!..»

## *Ці зоймецца новы бос тэлевізару сапраўднай цэнзурай?*



«1000 згвалтаваньняў, 1500 забойстваў, 1700 лёгкіх, сярэдніх і цяжкіх цялесных пашкоджаньняў... Выключы тэлевізар!» Гэты вядомы рэклямны ролік цудоўна адлюстроўвае сутнасьць сучаснага тэлебачаньня, якое даўно стала сынонімам маральнага растленьня і прапаганды нізкіх густаў.

Ня дзіўна, што працоўныя краіны з надзеяй сустрэлі прыход новага дырэктара Дзяржтэлерадыёкампаніі Віктара Чыкіна, якога мы ведаем як прынцыповага камуніста і дабрапарадачнага хрысьціяніна. Нібыта апраўдваючы спадзяваньні, у сваёй інаўгурацыйнай прамове тав.Чыкін паабяцаў выветрыць з Макаёнка-9 увесь дух гнілога заходніцтва, сатанінскага року і разбэшчанага сэксу.

Першыя крокі былі сапраўды шматабяцальнымі. З рокам разабраліся: зьнятая з эфіру пошлая праграма «Акалада». А вось далей нешта забуксавалі. Ня будзем займацца галаслоўем. Возьмем праграму тэлеперадач за верасень. У гушчары бездухоўных расейскіх каналаў з надзеяй шукаем астравок дабра – калёнку тэлепраграмаў БТ. І адразу ж вока рэжа нейкая падазроная назва – фільм «Багач, бядняк». У кінастужцы чырвонай ніткай праходзіць думка, што ёсьць амэрыканцы дрэнныя і... Добрыя? Таварыш Чыкін, няўжо вы забыліся, чые Фантомы-невідзімкі бамбавалі Новы Сад? Ідзем далей. 8 верасьня, 21.50 мастацкі фільм «Асса». Тут наогул камэнтары залішнія. Хацелася б паглядзець на ўнука Чыкіна, які з санкцыі дзядулі глядзіць фільм і бачыць такі непрыстойны кадар – дзяўчына бязь ліўчыка са сьпіны (актрыса Тацьяна Друбіч). Што вырасьце з гэтага карапуза? Толькі адно: БНФавец, які шпурляе камяні ў міліцыю.

10 верасьня, 21.30 музычная камэдыя «Вясельле ў Малінаўцы». Паўтары гадзіны бруднай прапаганды бандытызму, п'янства і самагонаварэньня, а пад канец паказваюць румына-трансвэстыта Папандопалу ў жаночай вопратцы і нейкага дэбіла-вычварэнца з дамскім бюстгальтэрам на галаве. Гей-прайд дый толькі!

17 верасьня, 21.30 польская кінастужка «Учора». У фільме ёсьць усё што патрэбна сэксуальна заклапочанай асобе: «бітлы», голыя ляжкі і польскія жаночыя трусікі з рушачкамі.

Дакаціліся, таварышы! Засталося толькі яшчэ паказаць «Анжэліку – маркізу анёлаў»! Можа хопіць атручаць нашыя душы, спадар Чыкін!

Камітэт абароны тэлегледачоў ад парокаў тэлебачаньня пры рэдакцыі газэты *Навінкі* папярэджвае, што будзе й далей працягваць маніторынг рэпэртуару БТ. Калі ня спынецца гэтая дзейнасьць па падрыву маральных устояў беларускага грамадзтва, мы будзем зьвяртацца ў вышэйстаячыя інстанцыі, да намесьніка гарвыканкаму, адказнага за ідэалёгію! ●

**Вячаслаў Казіятка**

## Галасуй за ўсіх!

# *Каб перамагла дружба!*

***П***ры ўсёй стракатасьці перадвыбарчых лёзунгаў, заклікаў да байкоту і іншай лабуды зьявілася сапраўды рэальная сіла, якая змагаецца за стабільнасьць у нашым грамадзтве – незалежная грамадзкая ініцыятыва «Галасуй за ўсіх!». Хопіць кулюарнай барацьбы, хопіць канкурэнцыі! Хай запануе алімпійскі прынцып: «галоўнае – не перамога, галоўнае – ўдзел»!

# Парнуха? Мат? Глупствы!

Апошнім часам рэзка пачасьціліся абвінавачаньні нашай газэты (прычым як з боку прыватных асобаў, гэтак і некаторых афіцыйных органаў), што нібыта мы «западаем на голых цёлак» (парнаграфія) і «ніводнага сказу ня можам выявіць бяз мату» (ненарматыўная лексыка).

Сьпяшаемся супакоіць барацьбітоў за грамадзкую мараль: мы не ствараем канкурэнцыю газэтам *Двое*, *Эрос*, *Про Это* і г.д. Газэта *Навінкі* зьяўляецца ці амаль не пурытанскай газэтай, якая здольная даць фору любому афіцыйнаму (ня тое што апазыцыйнаму!) выданьню паводле сваёй прыстойнасьці.

Што да голых баб, то ўсе яны выступаюць на старонках газэты ў якасьці сымбаля голай праўды, да якой мы імкнемся. Калі разгледзець пытаньне ненарматыўнай лексыкі, то шматкроп'е (...) наўрад ці можна лічыць ненарматывам. Правілы выкарыстаньня гэтай нормы пунктуацыі можна знайсьці ў любым школьным падручніку.

Так што, ніякага «бізару».

**Рэдакцыя**



1. Да прачытаньня газэты *Навінкі*:
– Сёньня набыла газэту, каб рыбу заварочваць.
– Можа там і праграма ёсьць? Ну-ка пачытай...



2. Пасьля прачытаньня газэты *Навінкі*...

# НАСУСТРАЧ ВЫБАРАМ




## *ПрыкОлы*

### «Невяртанцы»!

Не адкрыем вялікай тайны: кожны малады чалавек сьпіць і адчувае прыступ палюцыі, калі ў сьне яму ўручаюць білет сябра БПСМ. У гэтую арганізацыю бяруць самых дастойных прадстаўнікоў моладзі.

Увесну гэтага году па лініі БПСМ некалькі дзясяткаў шчасьліўчыкаў рванулі на Захад працаваць «на ўборцы вінаграду». «Чакайце да першага верасьня», – казалі яны праважаючым. Але ўжо мінае бабіна лета, а шмат хто зь іх дасюль не вярнуўся. У рэктараце гарадзенскага ўнівэру на пытаньне нашага карэспандэнта, куды падзеліся маладыя патрыёты, нам адмовіліся даваць нейкую дакладную інфармацыю. Мясцовыя ж адорвышы разносяць па аўдыторыях чуткі, быццам нашыя мальчышы-кібальчышы абралі вольны сьвет. Хлусьня з лэйблам «made in USA»! Проста ім даручылі выконваць нейкае супэрважнае заданьне. Можа, у гэты самы момант невядомы янчэўскавец пад покрывам цемры падкладае фугасіну пад натаўскі эшалён, што вязе ў Косава партыю карнікаў-«міратворцаў». А можа ў брудным пяцідаляравым матэлі на 37-ай вуліцы, ахвяруючы дзявочай годнасьцю, маладая патрыётка кажа вычварэнцу-цэрэушніку: «Коцік, за password доступу ў кампутарную сыстэму Пэнтагону я яшчэ ня тое магу».

Трымайцеся! Калі-небудзь вуліцы гораду над Нёманам абавязкова ўпрыгожыць сьціплая шыльдачка «вул. 30-ці невярнуўшыхся адтуль маладых патрыётаў».

# *Аўтарытарны палтэргейст*

***Б***рутальны замах адбыўся днямі на намесьніка галоўнага рэдактара *Молодёжного Проспекта* сп.А.Палынскага. Днямі да жонкі Палынскага, вядомай скандальнай журналісткі Ціны Клыкоўскай завітаў нарад міліцыі. «Скажыце», – ветліва спыталіся міліцыянты. – Ці ня ваш гэта муж валяецца пад балконам?» «Які такі муж?» – перапытала Ціна. – «Мой, здаецца, у хаце...» Аднак праверка выявіла адваротнае: гаспадар кватэры сапраўды валяўся на тры паверхі ніжэй за свой звычайны жыцьцёвы ўзровень.

Як выявіла невялічкае расьследаваньне, незалежнага журналіста выкінула з балкону невядомая сіла. Аднак прафэсійны барзапісец Палынскі здагадваецца чыіх рук гэтая справа. «Нас такімі фокусамі не правядзеш! Усе кажуць, што напэўна гэта была патустароньняя сіла. Глупствы! Я ўпэўнены, што тут замешаны рэжым! Ён прычасны да ўсіх злачынстваў, якія адбываюцца ў краіне».

Зараз выбітны журналіст знаходзіцца ў шпіталі са шматлікімі пераломамі й дынамічнымі ўшыбамі мазжачку. Лечачы ўрач аптымістычна ацэньвае становішча пацыента.

# «Мэдаль альбо сьмерць!»

## Замест таго каб рэзацца ў далёкія нашаму мэнталітэту касмапалітычныя «бэйсбол» ці «нарды», трэба даўно ўжо зьвярнуцца да культываваньня нацыянальных відаў спорту

Пад такім слоганам дэсантаваліся нашыя алімпійцы на былую хімію, якой была Аўстралія ў часы каралевы-маткі. Але будзем прагматыкамі: шанцы нашай дружыны патрэсьці сумчатых гаспадароў на залатыя кулоны мікраскапічныя. Сярод генэральных прычынаў – фізыялягічныя асаблівасьці беларускага цела. Натуральна, што ў тубыльцаў Кеніі як наступства біялягічнай мімікрыі ласты лепш прыстасаваныя да забегу на доўгія дыстанцыі. Каб не замяніць гепарду чыпсы «Лэйс» або ня сесьці на дзюбу страўсу Эму, расавым братам Кофі Анана прыходзілася быць канкурэнтаздольнымі на палёнай сьцежцы. У выніку, пакуль напрацягу стагодзьдзяў беларусы павольна плялі брылі і елі радзімую, нэгры мэтанакіравана трэніраваліся.

Што нам цяпер лавіць на гэтай Алімпіядзе, акрамя прыніжэньня. Трэба браць прыклад з англічан, якія прыдумалі і раскруцілі віды спорту адэкватныя асаблівасьцям свайго корпусу, напрыклад, футбол або крыкет (уявіце сабе гольф на бульбяных сотках!). Справа за малым: распрацаваць аўтэнтычныя віды спорту і лабіяваць іх уключэньне ў праграму гульняў 2004 году. Колькі іх падсунем – столькі камплектаў золата, срэбра й бронзы і заграбастаем.

Маленькі экскурс у анталёгію паходжаньня спартовых гульняў. Узьнікнуўшы як выключна функцыянальная актыўнасьць, арэентаваная на атрыманьне канкрэтнага гаспадарча-мілітарнага выніку, традыцыйныя заняткі паступова рытуалізаваліся. Прагрэс зрабіў іх першапачатковае прызначэньне непатрэбным, але адмовіцца ад звыклых апэрацыяў народцы не маглі. Гульня стала сродкам экспрэсіі сацыяльнай сувязі этнасу альбо клясы. Прыклад – ужо ўзгаданы ангельскі сокер. Аблюбаваны мэтад трэніроўкі рымскіх легіянэраў празь вякі трансфармаваўся ў народны дывэртысмэнт, а набіты верасам чэрап пікта – у бычы пухір, які, у сваю чаргу, набыў абрысы мяча «Adidas» за 25$. Азірні навакольле. Прэтэндэнтаў на лёс папулярнай гульні нямала і сярод беларускіх грамадзка-значымых актывітэтаў. Але да нядаўняга часу ім не хапала адэкватнай кадыфікацыі. Што мы і зрабілі на прыкладзе найбольш верагодных кандыдатаў.

### Акадэмічны збор бутэлек.



Для гульні вам патрэбна перасечаная мясцовасьць. Арбітар выпівае бутэльку піва. У 80-100 м па розныя бакі ад яго на стартавых лаўках сядзяць экіпіяваныя сеткамі-пасткамі гульцы. Калі апошняя кропля бурштыну зьнікне ў зобе судзьдзі, батлмэны (у мужчынскіх спаборніцтвах) з крыкам «Бутэлечку не пакінеце?» імчацца да тары. Перамагае хутчэйшы. Вельмі важна не зрабіць фальш-старт (патрабаваць недапітую пляшку несумяшчальна са спартовай этыкай). Гульня працягваецца пакуль арбітар трымаецца на нагах.

### Фэхтаваньне на «ружачках».



На зямлі малюецца лінія, якая павінна дэлімітаваць межы двух «спальных раёнаў». Удзельнікі вітаюць адзін аднога рытуальным прывітаньнем: «Пятух – сам пятух». Пасьля каманды «выскачымля», пачынаецца бой. У якасьці спартовых прыладаў выкарыстоўваецца фірмовая «ружачка» прамысловай вытворчасьці заводу «Крышталь». Бой працягваецца да поўнай перамогі аднаго з бакоў. Пераможцам лічыцца той, хто першы «папіша» суперніка, што азначае напісаць на торсе апанэнта старажытны сымбаль «ачко» з каронкай зьверху.

Існуюць таксама парныя й групавыя спаборніцтвы.



### Тралейбус.

Гуляюць дзьве каманды па сто адзінаццаць чалавек і спартовы тралейбус 4x2x2м³. Першая каманда займае пазыцыі ўнутры салёну. Яе заданьне – выйсьці з тралейбуса. Мэта каманды супернікаў – пранікнуць у тойсама тралейбус. Час раўнду – 3-5 хвілінаў. У якасьці сыгналу заканчэньня выкарыстоўваецца аб'ява арбітра «Асьцярожна, дзьверы зачыняюцца. Вызвальце заднія дзьверы». Пераможцам лічыцца каманда, якая інфільтруе ў поле праціўніка найбольшую колькасьць гульцоў ●

**Іван Карэлін**

# Агрэсія як рухавік спорту

## *і неабходная ўмова для любога спаборніцтва.*

Надкусаныя мочкі вухаў, зламаныя каленныя суставы й сочны фінгал пад вокам – хрэстаматыйны фон спартовага спаборніцтва. Чырвоныя карткі і дыскваліфікацыі тут як мёртваму прыпарка. Без агрэсіі і гвалту спорт – як тэракт без чачэнцаў.

Пачнем з этымалёгіі слова «агрэсія». Філёляг Даль кажа, што агрэсар – гэта мудзіла, нездаровы фэномэн, асуджаны грамадзтвам. Хопіць лахмаціць старушку! Агрэсія рэабілітаваная ў асяродзьдзі спартсмэнаў. У разуменьні тэарэтыкаў спорту, агрэсія – гэта «напорыстасьць, дамінаваньне, гэта ўмова перамогі» (С.Ціханаў). Нават на ўзроўні трэніровак ідзе псэўдабарацьба зь віртуальным ворагам. Спорт – гэта рытуалізаваная і санкцыянаваная форма гвалту і агрэсіі, а спартоўцы – дэ факта нэўротыкі, якія штучна культыву-юць у падкорцы нянавісьць і агрэсію як складаную спартовай перамогі.

Адкуль узяць агрэсію? У кожным прадстаўніку грамадзтва хаваецца агрэсія, і як толькі пад уплывам зьнешніх раздражняльнікаў яна выходзіць вонкі, пачынаецца беспрадзел. Але адных за гэта запіраюць у турэмны бокс па артыкулу за дробнае хуліганства, а іншым даюць заслужанага майстра спорту.

Такім чынам, адна з функцыяў трэнэраў разбудзіць імпульс агрэсіі ў падсьвядомасьці спарсмэнаў і каналізаваць яе ў патрэбным накірунку – на суперніка па спартовай пляцоўцы.

У гэтым можа дапамагчы тэорыя фрустрацыі, распрацаваная вядомымі псыхааналітыкамі Доларам, Мілерам, Маўэрам. Яны даказалі, што агрэсія разьвіваецца як кампэнсацыя за нудныя будні. Чалавек, якога затрахалі на працы і ў сям'і, шукае канал куды выплеснуць накопленае незадаволенасьць. Каб дасягнуць такой



ступені агрэсіі (чытай, спартовай формы), трэба засláць спартоўцаў на працоўны фронт. Заробак ім прызначыць самы пасярэдні ды яшчэ затрымліваць яго па паўгады. За чатыры гады – прамежак паміж алімпіядамі – у нашага накопіцца такая лятэнтная нянавісьць, што выпусьці яго супраць Тайсана, ён яму ня мочку лякатара аджуе – капыты і граблі павыдзёргвае.

Вось ён, рэцэпт перамогі! І дзяржаве ніякіх расходаў на спартовыя зборы, гімнастычных казлоў і хабары самаранчам ●

**Маркіз Дэ Тайсан**

# Fair Play: традыцыі і сучаснасьць

## *або пара словаў аб алімпійскіх прынцыпах «чэснай гульні»*

Калі б сёньня нейкі антычны грэк Андроні на машыне часу трапіў у Сыднэй і паглядзеў алімпійскія спаборніцтвы, ён напэўна б доўга пляваўся. Кубэртэн і ягоныя сабутэльнікі прадоўжылі алімпійскія ідэалы. Старажытная алімпіяда – гэта адкрыты подкуп атлетаў і арбітраў, забойства спартоўцаў на пацеху публіцы падчас спаборніцтваў і г.д. Ужо сам міт аб паходжаньні Алімпіяды ёсьць гісторыя махлярства. Жыў-быў каля гары Алімп нехта кароль Дынамас, які неяк разаслаў па краіне прэс-рэліз, што аддасьць сваю дачку Гіпадэму таму, хто пераможа яго на гіпадроме. Гэта было такоесама ашуканства, як афэра МММ. Жарабцы ў Дынамаса былі са стайні Марса, бога вайны. Калі б жыў у тыя часы Шумахер, нават ён на сваім пяціцыліндровым «фэрары» адсасаў бы ў мэрынаў Дынамаса.

Аднак на ўсялякую хітрую анальную адтуліну знойдзецца хітрэйшы чэлес. Пэлопс, сын Тантала і чатырнаццаты кандыдат у ложак Гіпадэмы, даў хабар каралеўскаму масажысту, каб ён падрэзаў вожкі ў тарантасе Дынамаса. Падчас спаборніцтваў дызэль караля паляцеў пад адхон. Пэлопс спыніў сваю цялегу, падыйшоў да кантужанага суперніка і... парашыў яго. Калі ён калупаў пяром рабро будучага цесьця, ён падумаў, што ня блага было б заснаваць алімпійскія спаборніцтвы, якія б прапагандавалі ідэалы «чэснай гульні» – fair play. Так і зрабіў.

«А як жа прыгожыя дзецюкі, партрэты якіх кожны бачыў у школьных падручніках?» – спытаеце Вы. Былі й такія. Аднак яны, як бы памягчэй сказаць, замянілі тагачасным пэдафілам Internet. Публіка на спаборніцтвы хадзіла спэцыфічная – галубцы, якія западалі на голыя дзіцячыя ягадзіцы. Калі нехта з атлетаў стартаваў раней за судзейскі сыгнал, то за фальцстарт давалі па заду хлыстом, і прыхільнікаў bizzar проста пёрла.

А што ўжо казаць пра карупцыю. У 486 годзе да Р.Х. сыракускі тыран Гелон купіў сабе двухразовага чэмпіёна Алімпіяды Астыласа, каб ён выйграў тытул чэмпіёна для Сыракузаў. Тыповы прыём сэлекцыянэра маскоўскага «Спартака».

Гульні былі арганізаваныя ў 776 годзе да Р.Х. і былі б забароненыя грамадзкасьцю, калі б за іх не заступіліся і вычварэнцы, і букмэкеры. Напрыклад, на пачатку нашай эры іх ня даў прыкрыць цар Юдэі Ірад, той самы, які ў Бібліі зачысьціў Бэтлеем ад ружовашчокіх бэбі.

Нехта можа заікнуцца, што Дэ Кубэртэн – чарніла іншага купажу. Як жа! Кожны ведае, што даўжыня алімпійскага маратону – 42 кілямэтры, аднак ад маратонскага поля, дзе адбылася бітва з сунітамі, і да рынкачнай плошчы Атэнаў, куды прыбег грэцкі Маленькі Мук: 39 кілямэтраў. Адкуль узялося яшчэ 3 кілямэтры? Вельмі проста. На алімпійскіх гульнях у Лёндане ў 1908 годзе Кубэртэн працягнуў даўжыню дыстанцыі на два кілямэтры. Усё для таго каб кароль з сваім вывадкам мог назіраць спаборніцтвы з балкону віндзорскага палаца, а не піхацца з плебеямі на тратуары.

Пасьля гэтага няма што зьдзіўляцца, калі стогадовы янкі, былы алімпіец, зусім выжыў з розуму й вярнуў Самаранчу... алімпійскі сьцяг, які ён быў сьцібрыў на Алімпійскіх гульнях у Амстэрдаме аж у 1924 годзе. Адным словам – алімпійцы ●

**«Чорныя палкоўнікі»**

# Крывавы цар таксама сьвяты!

Летапісы глаголяць, што праходзячы кандыдацкі стаж на чын сьвятога, Мікола Стоўпнік адмаўляўся спаць лёжачы і дрыхнуў стаючы на двух кастылях, Ціхан Мэдынскі прапісаўся ў дупле дуба, а Вэсэрынары Донарскі заклаў сябе на абед балотным п'яўкам. На фоне згаданых сьвятых былому расейскаму самадзержцу Мікалаю II проста падфарціла. Пры жыцьці імпэратар ня быў заўважаны ў мазахісцкіх оргіях і сьмерць прыняў адносна лёгкую: бальшавікі ня сталі кіпяціць яго ўсьмятку, як сьв.Панцеляймона, расьпінаць літарай Х, як сьв.Андруся, або тапіць у Дзьвіне, як сьв.Язафата. Проста чпокнулі ў погрыбе іпацьеўскага асабняка – банальны the end для кавамолкі грамадзянскай вайны.

**Апошні расейскі імпэратар атрымаў прапіску ў сойме сьвятых.**

Нягледзячы на такую шэрую анкету, у жніўні Расейская Праваслаўная Царква прапіхнула цара-бацюшку ў пантэон сьвятых. Гэта ня будзь якая падзея для роднай старонкі. Акурат у Беларусі, у Магілёве падчас першай сусьветнай была стаўка Заходняга фронту, душой кампаніі якой быў памазанік божы. Тут, на Дняпроўскіх кручах, ягоная халёная барада прымелькалася як таблоід Арбакайтэ ў рэклямных роліках Stimorol. Ці ня вынікае адсюль, што Магілёў (ці нават уся Беларусь) мае права атрымаць ад сьв. Мікалая сваю законную порцыю цудаў, якія павінны вырабляць па статусу сьвятыя.

Усе сьвятыя робяць цуды: напрыклад, па рэкордны ўраджай ячменю трэба зьвяртацца да сьв.Натальлі, сьв.Ян Хрысьціцель выратоўвае ад мігрэніі як таблетка аспірыну Bauer, а сьв.Віталь сочыць за сэксуальнай напругай... Мы яшчэ ня ведаем, у якую вобласьць народнай гаспадаркі РБ божая канцылярыя адкамандзіруе сьв.Мікалая II. Было б файна, каб эксімпэратар заняўся фінансамі або зацыраваў сацыяльны бюджэт. Уявіце, як толькі ў «зайчыка» крытычныя дні, адразу Пракаповіч ставіць каму трэба агарак – і «зялёны» моршчыцца на богаўгодным курсе 1USD да 1000 BRB. Аднак найбольш верагодным падаецца такі варыянт: паколькі ў народзе Мікалай II быў прызваны Крывавам (прыгадалі яму крывавую нядзелю на каранацыю плюс дзьве вайны), то спэцыфіка ягоных фокусаў будзе зьвязаная з рэанімацыяй пацыентаў з кроўнымі хваробамі: лейкемія, трамбозы і г.д. Так што не давярайце зазывалам з мэдычных фірмаў, калі ў вас раптам пацякла юшка. Памятайце, што на небе зьявіўся пакуль што адносна незаняты сьвяты, які мае імпэт да беларусаў – сьвяты Мікола Крывавы. Прасіце – можа дапаможа...

**Уладзімер Ульянаў**




*Шлях пілігрымкі па Сьвята-Мікалаевых месцах (маршрут па сьлядах адступленьня расейскіх войскаў у 1917 годзе).



# «Слова – не верабей, а за базар адкажаш!»

*Крылатыя фразы з «Брата-2» ўвайшлі ў лексыкон маладой апазыцыі*




Кінападзеяй гэтага лета безумоўна стаў супэргіпэр-мэгаблокбастэр «Брат-2». Такога посьпеху нашыя кінапракатчыкі ня бачылі з часоў «Чапаева» і «Маленькай Веры». У кінатэатрах – аншлягі. Дзяўчынкі зрываюць са шпалераў сваіх пакойчыкаў постэры са сьлінявымі «нанайцамі» і клеюць фотаздымкі мужнага кілера Данілы. З усіх кіёскаў гуказапісу гучаць падлеткавыя галасы магілёўскага гурта БИ-2, які ў брытпопаўскім стыле нудзіць «Чужыя гарада-а-а». У Інтэрнэце зьявіўся сайт зь непрыстойнымі фотаздымкамі гераіні «Брата» прастытуткі Мэрылін-Дашы.

Карацей кажучы, «Брат-2» – гэта зараз модна. Але гэта там, у іхнай «дэмакратычнай» Расеі, фільм успрымаюць як апавяданьне пра прыгоды дэбільнаватага падлетка-баевіка, які, патрэніраваўшыся на чачэнах, паехаў за акіян вучыць мясцовых гангстэраў, што «моц у таго, за кім праўда». У нашай краіне фільм мае практычнае значэньне. Моладзь бачыць у ім інструкцыі да выжываньня ва ўмовах каменных джунгляў таталітарных беларускіх мэгаполісаў. Кінастужка даводзіць, як пракарміцца ў чужым горадзе, як зрабіць зброю з падручнага матэрыялу і, самае галоўнае, што казаць, каб цябе зразумелі чужынцы, нават калі ты ня ведаеш іхнай мовы. Ніжэй зьмяшчаем слоўнік фраз зь фільму, якія ўжо ўзятыя на ўзбраеньне ўсім прагрэсіўным насельніцтвам СНД:

«Адсасу за 30 баксаў» – фраза дапамагае прадэманстраваць вернасьць ідэалам нацыянальнага Адраджэньня пры дзелавой сустрэчы з замежнымі грантадаўцамі ці пры ўладкаваньні на працу ва няўрадавыя ўстановы.

«Вось уроды!» – гаворыцца з грэблівасьцю ў бок уладаў, зь пяшчотай у бок апазыцыі.

«Бра-а-ат!» (кажацца з сабачай адданасьцю ў вачах і пусканьнем сьліны) – ужываецца пры сустрэчы з прадстаўнікамі АБСЭ.

«Чаго ты мяне парыш? Я сам міліцыянэр!» – кажыце пры мянтоўскім вінце, асабліва, калі вы, ідучы на апазыцыйную тусоўку, прадбачліва апранулі міліцэйскія штаны.

«Хлопчык, водачкі нам прынясі» – зьвяртаючыся да наглядчыка КПЗ падчас раздачы баланды.

«Москаль, ты мэні нэ зэмляк!» – як адказ, калі ў вас у цёмнай падваротне банда РНЕ-шнікаў спытала цыгарэтку.

«Мы, рускія, сваіх не падманваем!» – ужывайце, калі хочаце пазычыць грошы ў расейскіх алігархаў на арганізацыю барацьбы з антыдэмакратычным рэжымам.

«Да ладна, чаго ты...» (з сарамлівасьцю) – да кантралёра ў грамадзкім транспарце, калі няма талонаў

**Аляксей Балаганаў**

## *ПерадвЫбарчая крыжавАнка*

# «Япона маць»

## Што Вы атрымаеце, калі пойдзеце на выбары або, наадварот, будзеце іх байкатаваць?

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | |1| | | |1| | |3| | | | | | | | | | | | |1|1| | | |
| | | | | |9|7|5|2|2|4|2|2|5|7|5|4|4| | |7|4|4|4| |4|3|6|4|3|3|3|4|
| | | | | |3|3|3|4|5|6|5|4|3|3|3|5|3|7|9|2|5|7|10|15|3|3|4|5|6|7|3|3|
| |5|10|2|1| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| |1|3|12|2| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| |2|1|14|3| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | |3|1|20| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|3|2|3|1|4| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|4|4|3|2|3| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|4|4|3|2|2| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|3|3|1|2|1| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|2|3|1|3|1| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|1|1|2|3|2| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| |3|2|4|3| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| |5|2|4|4| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | |13|12| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | |11|13| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | |11|13| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

# ГОМІКС

## БЛАКІТНЫ ГОНАР

*аптымістычная трагедыя пра мужчынскае каханьне (наша вэрсія разгону «Гей-Прайду»)*







































































